# Наша Свабода

№81(168) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

3 ЖНІЎНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Страх лишил их разума

Вчера, выступая на совещании перед представителями исполнительной власти, президент Лукашенко четко обозначил свой сценарий проведения грядущих президентских выборов. Стало очевидно, что ставка нынешнего главы государства сделана на силовое удержание власти. Действующий президент недвусмысленно заявил, что ни при каких обстоятельствах не отдаст власть. Документы следствия, в которых говорится о причастности должностных лиц государства к физическому уничтожению политических оппонентов, не принимаются им во внимание. Президент, как гарант прав и свобод граждан Беларуси, не собирается проводить независимое расследование и отстранять чиновников, замешанных в этих преступлениях. Потому что нынешняя власть рассчитывает только на личную преданность отдельных силовиков. Спецподразделения призваны стать опорой Лукашенко на выборах.

Власть, бравируя тем, что у нас нет войны, национальной и религиозной розни, собирается ввергнуть общество в гражданскую бойню. Жители Беларуси хотят строить открытое демократическое общество. Жива память войны с фашизмом, с гитлеровской диктатурой. И мы знаем, чем все это закончилось. Поэтому и сегодня ни «эскадрон смерти», ни спецназ не должны решать личных проблем нынешнего авторитарного президента.

Мы выступаем за проведение честных, прозрачных выборов. Выбирать президента должен белорусский народ, а не лично преданные власти бойцы из спецподразделений. Вместе мы не позволим расколоть общество и вести страну по пути смуты и хаоса. Уверены, что здравый смысл восторжествует, и граждане Беларуси смогут открыто и осознанно сделать свой выбор в пользу своего будущего – стабильного и предсказуемого.

**В.Гончарик, С.Домаш, С.Калякин, П.Козловский, М.Чигирь, М.Маринич.**
**1.08.2001 г.**

## ПАСЕ непакоіць выбарчая кампанія

У прадстаўнікоў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) «выклікаюць занепакоенасць» некаторыя аспекты выбарчай кампаніі, заявіў 1 жніўня на сустрэчы ў Мінску са спікерам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Аляксандрам Вайтовічам старшыня палітычнай камісіі ПАСЕ Тэры Дэвіс.

Дэлегацыя ПАСЕ, нагадаем, знаходзіцца ў Беларусі з 31 ліпеня. Асноўным вынікам яе знаходжання мусіць быць выпрацоўка рэкамендацыі Парламенцкай асамблеі па пытанні накіроўвання назіральнікаў на прэзідэнцкія выбары ў Беларусь.

У прыватнасці, па словах Т.Дэвіса, прадстаўнікі ПАСЕ былі «здзіўлены» тым, што члены ініцыятыўных груп, якія здавалі подпісы, сабраныя ў падтрымку вылучэння кандыдатаў у прэзідэнты, не атрымлівалі ў выбарчых камісіях дакументаў, якія пацвярджалі б перадачу гэтых подпісаў.

Пасля заканчэння сустрэчы са старшынёй Савета Рэспублікі Т.Дэвіс заявіў журналістам: члены дэлегацыі пагадзіліся з тым, што «некаторыя моманты варта старанна расследаваць, каб высветліць усе абставіны справы». Разам з тым, Т.Дэвіс яшчэ раз падкрэсліў, што дэлегацыя не можа рабіць якія-небудзь высновы да таго, як сустрэнецца з усімі зацікаўленымі бакамі.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

# Уладзімір Ганчарык: «Лукашэнка рыхтуе пераварот!»

***Адзіны кандыдат у прэзідэнты ад шырокай грамадскай кааліцыі Уладзімір Ганчарык абвінавaціў Аляксандра Лукашэнку ў імкненні захаваць уладу пасля выбараў сілавым шляхам.***

Падставай для такой гучнай заявы стала выступленне кіраўніка дзяржавы 31 ліпеня на рэспубліканскай нарадзе выканаўчых і распараджальных органаў. У сваёй прамове А.Лукашэнка зрабіў дастаткова заяваў, якія пры жаданні могуць быць кваліфікаваныя не толькі як передвыбарная агітацыя (пакуль яшчэ забароненая законам), але і як паклёп, і як зневажанне гонару і годнасці некаторых палітыкаў. Але галоўны матыў прамовы – наступныя пяць гадоў мусяць прайсці пад знакам А.Лукашэнкі.

### «Вы не маеце інфармацыі, адкуль растуць ногі!»

Нарада сумяшчала інструктаж «вертыкальшчыкаў» з прамываннем мазгоў – каб чыноўнікі адкінулі ўсе свае сумневы, калі яны ёсць, і пачалі эфектыўна працаваць на перамогу цяперашняга кіраўніка дзяржавы. Тым больш, што ён не даруе памылак ніводнаму кіраўніку, як паказала нядаўняя «цукровая» адстаўка міністра гандлю, старшыні Белкаапсаюза і канцэрна «Белхарчпрам».

Аляксандр Лукашэнка прызнаўся, што разлічвае менавіта на сваю «вертыкаль» – што менавіта яна створыць такія ўмовы, у якіх ён пераможа на выбарах. Ён заявіў таксама, што абавязкова пераможа на выбарах, атрымаўшы 90% галасоў: «Вы мусіце ведаць цвёрдую і непахісную маю пазіцыю: прэзідэнцкія выбары гэтыя я выйграю. З вамі гэта будзе – я б гэтага хацеў – ці без вас, але я іх выйграю. І я нікога не баюся».

Тон, у якім была вытрыманая гэтая заява, не пакідаў сумневу: Аляксандр Лукашэнка не проста дзеліцца сваімі ружовымі марамі з аднадумцамі, але дае адназначны загад падначаленым. Дай 90% — і кропка.

Публікацыі ў апазіцыйных СМІ наконт існавання ў Беларусі «эскадрона смерці», які займаўся ліквідацыяй палітычных апанентаў рэжыму, А.Лукашэнка расцэньвае не інакш, як «вайну супраць дзеючай улады, супраць дзеючага прэзідэнта». Кіраўнік краіны пацвердзіў факт існавання брыгады спецпрызначэння пад камандаваннем Дзмітрыя Паўлючэнкі.

*Заканчэнне на стар.3*

# Жонкі ахвяраў пікетуюць «прэзідэнцыю»



Фота Ул.ШЛАПАКА

*1 жніўня з 15 да 16 гадзінаў блізкія сваякі беларускіх палітыкаў, бізнесменаў, журналістаў, якія зніклі без вестак або падвергліся рэпрэсіям, правялі пікет ля будынка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*

Людміла Карпенка, Ірына Красоўская, Зінаіда Ганчар, Святлана і Вольга Завадскія, Таццяна Клімава-Леановіч, Ала Клімава і яшчэ некалькі ўдзельнікаў пікета трымалі ў руках партрэты Генадзя Карпенкі, Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, Андрэя Клімава, Валерыя Шчукіна. Сярод тых, хто прысутнічаў на пікете, але не бралі ўдзел у ім, былі лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, намеснік старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Юрый Беленькі і іншыя.

Падчас правядзення пікета да будынка Адміністрацыі прэзідэнта пад'ехаў памочнік прэзідэнта, намеснік старшыні камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Аляксандр Шпілеўскі. На пытанні журналістаў аб праводзімай акцыі і лёсе зніклых людзей ён адказаў коратка: «Без каментараў. Спачуваю».

Зінаіда Ганчар, пакуль праходзіла акцыя, увайшла ў будынак рабочай рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы і паспрабавала запісацца на прыём да намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Юрыя Сівакова і старшыні Савета бяспекі Урала Латыпава. Супрацоўнікі адміністрацыі паабяцалі ёй вырашыць гэтае пытанне.

Некаторыя з удзельнікаў пікета адказалі на пытанні карэспандэнта БелаПАН. Так, Людміла Карпенка, ацэньваючы выступленне А.Лукашэнкі перад прадстаўнікамі «вертыкалі», дзе кіраўнік дзяржавы дапусціў зневажальныя выпады супраць сваякоў зніклых без вестак людзей, адказала: «Гэта хлусня і паклёп. Не хапае словаў. Хочацца проста зняважыць у адказ, але нельга апускацца да яго ўзроўню. Проста яго страх адолеў, што пахіснулася пад ім крэсла». Святлана Завадская сказала, што зараз яна чакае суда. «Але баюся, што змяненняў да лепшага ён у маё жыццё не прынясе... Ад каго заўгодна мы чакаем дапамогі, але толькі не ад сваіх уладаў. Гэта засмучае, але такая сітуацыя». Маці Дзмітрыя Завадскага Вольга Завадская сказала, што ад пікета чакае толькі аднаго — «каб нас заўважылі»: «Мне б хацелася паглядзець у вочы людзям з кабінетаў гэтага будынка, перад якімі мы стаім». Ад будучага суда Вольга Завадская не чакае якіх-небудзь істотных вынікаў, таму што ўжо знаёмства з крымінальнай справай паказала, што ўлады не ўстанаўлівалі ісціну, а спрабавалі замяць і схаваць сляды. «Відавочна, гэта цалкам незвычайная разборка з-за асабістых інтарэсаў. За ўсім стаяць пэўныя сілы. Пры знаёмстве са справай у мяне неаднаразова ўзнікалі пытанні — а хто заказчык?» — сказала Вольга Завадская.

Затрыманняў падчас правядзення несанкцыяванай акцыі не праводзілася. Аднак супрацоўнікі міліцыі перапісалі прозвішчы ўсіх яе ўдзельнікаў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Зноў камунальнае падаражэнне

У ліпені чарговы раз павялічыліся тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва. На 0,8% узрасла кватрплата і плата за карыстанне ліфтам, газ, халодную ваду, вываз адходаў. На 35% падаражэла гарачая вада.

## Вандроўка добрай волі

5 жніўня ў межах кампаніі «Выбірай!» стартуе пешая вандроўка па Палессі «Рух добрай волі» з мэтай заклікаць жыхароў Брэстчыны прыйсці на выбары 9 верасня. Плануецца, што за 2 тыдні каля сотні ўдзельнікаў паходу пройдуць каля 300 кіламетраў праз 58 вёсак і 7 гарадоў.

## Сарвалі адкрыццё фестывалю

Адкрыццё фестывалю дакументальнага кіно «Адзін свет», запланаванае на 1 жніўня ў Музеі гісторыі кіно, было сарванае. У самы апошні момант дырэкцыя музея скасавала адмысловую дамоўленасць з арганізатарамі фестывалю – беларускім Маладзёжным інфармацыйным цэнтрам і чэшскай арганізацыяй «Чалавек у нядолі».

## Беларускія дазіметры — лепшыя

Дазіметрычныя прыборы, вырабленыя на мінскім прадпрыемстве «Полімайстар» атрымалі сертыфікат МАГАТЭ, Інтэрпола і Сусветнай мытнай арганізацыі. Адмысловыя выпрабаванні гэтых апаратаў ад больш як двух дзесяткаў фірмаў па праграме «Кантроль за незаконным перамяшчэннем ядзерных і радыяцыйных элементаў праз мяжу» завяршыліся тым, што менавіта нашыя дазіметры займелі сертыфікат.

## ВІЧ-інфекцыя выходзіць за «групу рызыкі»

Бальшыня хворых на ВІЧ-інфекцыю – гэта асобы рэпрадукцыйнага ўзросту. Паводле галоўнага санітарнага ўрача Беларусі Валерыя Філонава, у Беларусі зарэгістравана 3.587 выпадкаў з гэтым захворваннем. Спецыялісты заўважаюць, што апошнімі гадамі ВІЧ-інфекцыя распаўсюджваецца з наркаманаў, прастытутак і вязняў на іншыя слаі насельніцтва.

## Амаль тысяча тапельцаў

Сёлета ў Беларусі патанулі ўжо 939 чалавек. 125 з іх — дзеці. А ўсяго бедства на вадзе цярпела 2.700 чалавек. Асноўныя прычыны трагедыяў – купанне ў недазволеных месцах і ў нецвярозым стане, а таксама недагляд за дзецьмі.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1455**

## Дэсант мусіць быць з народам

Малады Фронт правёў 2 жніўня акцыю з нагоды Дня дэсантніка і ў сувязку са скандальнымі выказваннямі А.Лукашэнкі, што ён «уладу не аддасць» і «будзе абараняцца».

Некалькі маладафронтаўцаў на чале з Паўлам Севярынцам пад бел-чырвона-белымі сцягамі з'явіліся перад уваходам у будынак міністэрства абароны. Яны прынеслі віншаванні, кветкі і петыцыю. Хлопцаў прыняў прадстаўнік Генштаба палкоўнік Мікалай Хацішчаў (па словах сябраў МФ, ён служыў у дэсанце, зрабіў 118 скокаў з парашутам і цудоўна размаўляе па-беларуску).

У звароце МФ да байцоў мабільных сілаў Беларусі гаворыцца, што якраз яны «могуць стаць гарантам таго, што ў выпадку перамогі дэмакратычных сілаў на прэзідэнцкіх выбарах 9 верасня ўлада належным чынам пяройдзе да законна абранага кіраўніцтва. Мы заклікаем вас не ўдзельнічаць у карных аперацыях супраць мірных дэманстрантаў і не выконваць злачынных загадаў. Будзьце разам з народам!»

На што спадар Хацішчаў адказаў, што ўзброеныя сілы «ні ў якім разе не будуць ажыццяўляць антынародныя ці антыканстытуцыйныя дзеянні». Апрача таго, ён пажадаў маладафронтаўцам поспехаў у «справе абароны Айчыны».

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Забаўка скончылася трагедыяй

У Пінску трое падлеткаў ва ўзросце 14-15 гадоў узняліся на электрычную апору, каб паглядзець на наваколле з вышыні птушынага палёту. Але прыкладна на дваццаціметровай адлегласці ад зямлі хлопец, што караскаўся першым, быў забіты электрычным токам, напружанне якога тут сягала 110 кВ. Каменем ён паляцеў уніз, а спалоханыя сябры неяк здолелі самастойна злезці з апоры. У шокавым стане іх даставілі ў бальніцу.

**Пятро ЛІС**

## Папаўся на маку

Пагранічнікі Гомельскага атрада затрымалі на днях грамадзяніна Беларусі, жыхара Гомельскага раёна, які спрабаваў збыць 1 кг макавай саломкі. Аб гэтым БелаПАН паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў.

У ходзе разбіральніцтва затрыманы прызнаў сваю віну і быў перададзены супрацоўнікам Гомельскага раённага аддзела ўнутраных справаў для наступнага ўзбуджэння ў адносінах да яго крымінальнай справы

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

**СПОРТ**

## «Славія» прайграла зноў

Футбалісты мазырскай «Славіі» выбылі з барацьбы ў Лізе чэмпіёнаў. Вечарам 1 жніўня ў матчы ў адказ другога кваліфікацыйнага раунда яны прайгралі ў Браціславе славацкаму «Інтэру» з лікам 0:1. Мяч на 72-й хвіліне забіў нападаючы славакаў Аліяс Лембакоалі.

У першым матчы, які прайшоў на тыдзень раней у Мазыры, мацнейшым таксама быў «Інтэр» – 1:0.

**Эдзік ПЕЛЕ**



**УЛАДА**

## «Цытадэль» адміністрацыйнага рэсурсу

З адстаўваннем на 5.754 подпісы кандыдат у прэзідэнты А.Лукашэнка прайграў на Брэстчыне першы этап выбарчай кампаніі. За С.Гайдукевіча, У.Ганчарыка і С.Домаша сабрана разам 69.436 подпісаў, што раўназначна палярнай пазіцыі такой вялікай колькасці актыўных выбаршчыкаў з Прыбужжа да палітыкі існуючай улады.

Не ўсё чыста ў дзейнасці рэгіянальнай групоўкі са спекулятыўнай назвай «Цытадэль», створанай у рэгіёне ў альтэрнатыву мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай». Адзін з апекуноў агрэсіўнага ідэалагічнага фарміравання з былых партфункцыянераў, адстаўнікоў з так званага Саюза афіцэраў і цяперашніх камітэтчыкаў БПСМ, старшыня абласнога Леанід Лемяшэўскі пакуль нідзе публічна не абвергнуў звесткі пра тое, што ў калгасах і на прадпрыемствах вобласці падпісныя лісты за Лукашэнку запаўняліся ў рабочы час і на загад. Зрэшты, нават і гэты адміністрацыйны рэсурс «Цытадэлі» шмат дзе сустракаў супраціў — інакш не давялося б адмовіцца ад падачы ў мясцовыя выбаркамы 6.318 «падазроных» подпісаў з заводаў у Брэсце, Баранавічах, Пінску, Бярозе і іншых райцэнтрах.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Рабства адмяняецца

Пінскія настаўнікі з дапамогай свабоднага прафсаюза дабіліся ад уладаў адмены прымусовых работ па нарыхтоўцы сена ў калгасах раёна.

Кожнаму педагогу быў даведзены план у памеры 400 кілаграмаў. У адваротным выпадку ад іх патрабавалі ўнесці ў калгасную касу пэўную суму грошай. Многія пад ціскам дырэктараў, якім пагражала звальненне з работы за невыкананне плана, узяліся за касу, другія — частку адпускных перадалі калектыўным гаспадаркам. Але ж некаторыя настаўнікі заявілі, што яны не рабы і на сенажаць пойдуць толькі ў тым выпадку, калі наперадзе з касою ў руках пойдуць старшыня Пінскага гарвыканкама Васіль Шуст, яго намеснік, што курыруе адукацыю, Аляксандр Канеўскі, а таксама начальнік аддзела адукацыі Эдуард Яленскі. Паколькі вышэйназваныя чыноўнікі грэбуюць чорнай работай, дамовіліся не была дасягнутая.

Але націск на настаўнікаў працягваўся. Не вытрымаўшы такога нахабства, частка педагогаў звярнулася з лістом у газеты і пракуратуру. Гэты крок меў рацыю. Брэсцкі аблвыканкам, якому прыйшлося даспадобы рабавань настаўнікаў і кожны год павышаць план сенанарыхтоўкі, хутка прыняў рашэнне аб вызваленні апошніх ад прымусовых работ і накіраваў адпаведную паперу пінскім вертыкальшчыкам. Між тым, педагогі не збіраюцца заставацца на дасягнутым, а рыхтуюць іск да ўладаў з патрабаваннем вярнуць незаконна сабраныя грошы.

**Павел КУНІЦКІ**

**ЛЮСТРАФАКТ**



Фота IREX/ProMedia

Камбайны імчацца збіраць ураджай

## Не на продаж, а на склад

У першым паўгоддзі гэтага года запасы гатовай прадукцыі на складах беларускіх прамысловых прадпрыемстваў узраслі з 62,8 да 67,5% ад сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці і дасягнулі 742,6 млрд. рублёў (537 млн. долараў у пераразліку па афіцыйным курсе на 1 ліпеня).

Згодна з інфармацыяй міністэрства статыстыкі і аналізу, больш за ўсё запасаў у машынабудаванні і металаапрацоўцы (118,6% ад сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці), лёгкай прамысловасці (116), лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці (86,5), а таксама ў прамысловасці будматэрыялаў (74,4).

Складскія запасы кавальска-прэсавых машын перавышаюць сярэднямесячны аб'ём вытворчасці ў 4,4 раза, металарэзных станкоў — у 2,3 раза, радыёпрыёмных прыладаў — у 2,6 раза, ільняных тканінаў — у 3,5 раза, шарсцяных — у 3,2 раза, матацыклаў — у 2 разы, трактароў — у 1,9 раза, крупаў — у 3,9 раза.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Нявыгадны гандаль

З пачатку года колькасць стратных прадпрыемстваў гандлю павялічылася да 40%. У адпаведным перыядзе 2000 года гэтая лічба не перавышала 26%. Паводле начальніка ўпраўлення міністэрства гандлю Генадзя Мельніка, за ўсе годы існавання ў такім крызісным стане ў ліпені прадпрыемствы галіны апынуліся ўпершыню.

У такім становішчы знаходзяцца як дзяржаўныя, так і прыватызаваныя прадпрыемствы, якіх у галіне большасць — 59,3% (раздробным гандлі ім належыць да 66%, а ў грамадскім харчаванні – 45%).

Першыя захады для выпраўлення такой сітуацыі ўжо прынятыя, і зараз замест крэдытных пазыкаў пад 80-90% свае ўласныя сродкі прадпрыемствы галіны будуць папаўняць адлічэннямі ў 6% ад валавага даходу. Адмены падатку на раздробавы гандаль міністэрства яшчэ дабіваецца. Са словаў намесніка міністра гандлю Рыгора Краўчанкі, гэта проста неабходна, бо амаль увесь дробны гандаль стратны. Але, нягледзячы на гэта, для пакупнікоў сёлета ўжо было праведзена каля 2 тысяч кірмашоў і выставаў.

**Алена ЛАБАНАВА**

**ДЗЕЦІ**

## Канікулы адбіраюць здароўе

Чарговы скандал на Беларускай чыгунцы: ведамасная аздараўленчая база «Вербы» пабліззу гарпасёлка Высокае на Брэстчыне часова закрытая з прычыны шпіталізацыі 83 дзяцей з дыягназам харчовая таксіінфекцыя.

Гэтыя канікулы для школьнікаў працягваюць быць небяспечнымі. Акрамя больш як 120 выпадкаў інфекцыйных захворванняў, вобласць страціла да трох дзесяткаў малых жыццяў на вадаёмах, у пясчаных кар'ерах, ад пападання разраду маланак і ў дарожных катастрофах.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## «Кактэйль Молатава»

У акно кватэры аднаго з кіраўнікоў Лідскага піўзавода невядомыя кінулі бутэльку з запальнай сумессю. На шчасце, яна адскочыла ад аконнай рамы і выбухнула на зямлі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Справа Чыгіра на дадатковым расследаванні

Крымінальная справа Аляксандра Чыгіра, сына былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра, вернута Пракуратурай Рэспублікі Беларусь у Следчы камітэт пры МУС РБ для вытворчасці дадатковага расследавання на працягу месяца. 20 жніўня расследаванне мусіць быць завершанае. У Пракуратуру Беларусі яно паступіла ў сярэдзіне ліпеня, пасля чаго павінна быць перададзенае ў суд.

А.Чыгір і яго абарона зноў падалі хадайніцтвы аб правядзенні шэрагу следчых дзеянняў і экспертызаў. Падобныя хадайніцтвы былі заяўленыя пасля азнаямлення з матэрыяламі справы ў першай палове ліпеня, аднак тады яны былі адхіленыя.

А.Чыгір і яшчэ два чалавекі абвінавачваюцца ў крадзяжах, якія ўчыненыя арганізаванай групай — артыкул 205, частка 4 Крымінальнага кодэкса Беларусі. У выпадку, калі іх віна будзе даказаная, ім пагражае пазбаўленне волі тэрмінам ад 7 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

А.Чыгір сваёй віны ў арганізацыі групы, якая выкрадала машыны, разбірала іх на дэталі, а затым рэалізоўвала ці ўстанаўлівала на іншых аўтамабілях, не прызнае. Два іншыя падследныя спачатку далі паказанні, у якіх прызналі сваю віну, аднак затым заявілі, што паказанні ў іх былі «выбітыя», і адмовіліся ад іх.

Міхаіл і Юлія Чыгіры неаднаразова заяўлялі, што не вераць у вінаватасць сына і лічаць крымінальную справу сфабрыкаванай напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, у якіх М.Чыгір меў намер удзельнічаць.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Нямецкая назва для брэсцкай лякарні

Калі старшыня Брэсцкага гарвыканкама Генадзь Масько стрымае дадзенае ім слова, то будынак філіяла дзіцячай паліклінікі №1 па вуліцы Чырвонагвардзейскай стануць называць «Сярэдняя Шуссэнталь».

Гэта будзе справядлівая ўдзячнасць рэлігійнай супольна нямецкага горада-пабраціма Равенсбурга за матэрыяльную дапамогу ў рэканструкцыі і аснашчэнні будынка-даўгабуда. Тут будзе размешчанае адзінае ў вобласці дзіцячае артадантычнае аддзяленне па выпраўленні прыродных і ўзроставых зубных адхіленняў. На гэтыя мэты на Нямеччыне ўжо набытае абсталяванне на суму 350 тысяч дойчмарак.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

**ПРЭСА**

## «Правінцыялка» — пад сталом

Пінскія гарадскія ўлады вельмі баяцца новай незалежнай газеты «Правінцыялка». Усім работнікам апарата забаронена чытаць і падпісвацца на яе. Дабраліся нават да сваякоў. Ёсць выпадкі, калі яны прыходзяць на пошту і просяць ліквідаваць падпіску з-за таго, што на іх аказваюць ціск блізкія.

А работнікі гарадскіх бібліятэк хаваюць экземпляры «Правінцыялкі» пад сталом. Дарэчы, падпіску на сваё выданне для чытальных залаў аформіла сама рэдакцыя. Пры гэтым газета свабодна прадаецца практычна каля кожнага магазіна...

**Павел КУНІЦКІ**

## Мінералку на экспарт

Са словаў намесніка міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Аляксандра Апацкага, Беларусь лепш за іншыя краіны Еўропы забяспечаная мінеральнай вадой. У перспектыве гандаль мінеральнай вадой можа стаць адным з самых буйных экспартных накірункаў для нашай краіны.

Сёння на тэрыторыі краіны налічваецца да 52 відаў мінеральных водаў з разнастайным узроўнем мінералізацыі і ўтрымання мінеральных кампанентаў. Існуе не менш за 60 вытворцаў мінеральнай вады. Амаль у кожным беларускім санаторыі маюцца крыніцы з мінеральнай вадой.

На думку медыкаў, найбольшым лекавальным эфектам валодае вада толькі ў натуральным прыродным стане, а вада ў бутэльках, пазбаўленая доступу кіслароду, губляе свае лячэбныя якасці. Таму аднаўляць здароўе лепш на бальнеалагічных курортах, дзе мінеральныя воды ёсць асноўным лячэбным фактам. І як мага часцей, бо эфект ад мінеральных працэдураў нядоўгі.

**Алена ЛАБАНАВА**

**ПРЫРОДА**

## Лясны маніторынг

Да 1 студзеня 2002 года міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі павінна зацвердзіць парадак правядзення маніторынгу лясоў. Як адзначана ў пастанове Савета міністраў «Аб зацвярджэнні парадку ажыццяўлення маніторынгу лясоў», гэта неабходна зрабіць для рэалізацыі палажэнняў Ляснога кодэкса краіны.

Парадак правядзення маніторынгу лясоў будзе ажыццяўляцца, у прыватнасці, па наступных напрамках: узздзеянне забруджанага паветра на лясы, лесапаталагічны і радыяцыйны маніторынг, эколага-меліяратыўны маніторынг меліяраваных лясных зямель, а таксама маніторынг парушаных лясных зямель, занадта ўвільготненых лясных зямель, поймённых лясоў.

Маніторынг, як адзначаецца ва ўрадавай пастанове, з'яўляецца складаючай часткай нацыянальнай сістэмы маніторынгу навакольнага асяроддзя рэспублікі і праводзіцца з мэтай рацыянальнага выкарыстання, аховы, абароны і ўзнаўлення лясоў, узмацнення іх асяроддзеўтваральных, водаахоўных, санітарна-гігіенічных і іншых функцыяў. Аб'ектам маніторынгу стане дзяржаўны лясны фонд, і назіранне тут будзе ажыццяўляцца на двух узроўнях – нацыянальным і лакальным.

**Вольга АСІПЕНКА**

**ЗДАРЭННІ**

## Ахвяры на лямпавым заводзе

Два чалавекі пацярпелі ў выніку выбуху сумесі парою вадароду і кіслароду, які адбыўся 31 ліпеня на рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Брэсцкі электралямпавы завод».

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Упраўлення міністэрства па надзвычайных сітуацыях па Брэсцкай вобласці, у гэты дзень інжынеры-дэфектаскапісты унітарнага прадпрыемства «Дыякод» праводзілі праверку рэзервуараў, прызначаных для захавання газаў пад напружаннем, на прадмет магчымасці іх далейшай эксплуатацыі. Калі ў адным з такіх рэзервуараў быў адчынены люк, туды спусціўся інжынер, а яго напарнік вырашыў пасвяціць калегу запальніцай. Пары вадароду, якія вырваліся наружу, ад рэакцыі з кіслародам узгарэліся. У выніку інжынер, які карыстаўся запальніцай, атрымаў сур'ёзныя апёкі лёгкіх і 60 працэнтаў цела. Зараз ён знаходзіцца ў рэанімацыйным аддзяленні абласной бальніцы. Яго напарнік атрымаў нязначныя апёкі і будзе лячыцца амбулаторна.

На месцы здарэння працуе камісія з удзелам прадстаўнікоў «Праматамнагляду», міністэрства па надзвычайных сітуацыях і пракуратуры Маскоўскага раёна Брэста. Аднак ужо зараз вядома, што інжынеры грубым чынам парушылі правілы тэхнікі бяспекі, не праверыўшы газапаветраную сумесь на выбухабяспечнасць.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Радуюцца толькі вароны

*Як усім вядома, кожную вясну ў Мінску з нагоды пачатку веснавога севу падымаюць вэрхал наконт будучых працоўных перамогаў, а ўвосень падлічваюць фінансавыя ды іншыя страты.*

Усё падобнае да таго, што і блізкая ўжо восень не будзе нічым адрозніваецца ад папярэдніх. Прычыны таму розныя, а першая ў тым, што на палях быццам бы ўрадзіўся добры ўраджай. А вядома, чым ён большы, тым цяжэй яго сабраць, таму і страты таксама будуць большымі. Умоўна кажучы, калі выгадавалі 5 мільёнаў тон, то воранам на корм застанецца 1 мільён, а калі на палетках зерне набірае вагу да 7 мільёнаў, то страты будуць каля трох. Бо тэхніка ў нас даўно на ладан дыхае. І ўборачная, і дапрацоўчая, і транспартная. Да таго ж паліва ў гаспадарках і на базах не назапашанае, яго падаюць, што называецца, з калёс, а пры такім раскладзе завяршыць работу ў аптымальныя тэрміны ніяк не ўдасца.

Надвор'е росту збожжа паспрыяла, але выкліканыя перападам тэмператур дажджы добра яго спляжылі. Таму, каб падняць ураджай, тэхніку трэба адпаведным чынам абсталяваць, а для гэта няма ні часу, ні матэрыялу. Бо часы, калі кожны калгас меў уласную звалку прыдатнага для вырабу так прыстасаванага жалезнага ламачча, даўно мінавалі. Многія людзі, гледзячы, як яно ржавее, прыладкавалі ўсё прыдатнае для сваіх уласных патрэбаў.

Але і не ў гэтым галоўнае. Убіраць ураджай прыйдзецца на адным галюткім энтузіязме, бо выручкі ад продажу яго мусіць хапіць толькі на тое, каб заплаціць за крэдыты, узятыя калгасамі на набыццё паліва, угнаенняў, сродкаў абароны раслінаў, на выплату заробкаў калгаснікам і іншыя гаспадарчыя дробязі. А калі так, то праца робіцца бессэнсоўнай у двух сэнсах: як прафесійны занятак, які павінен прыносіць заробак яго ўдзельніку; як гаспадарчая дзейнасць, што прыносіць прыбытак прадпрыемству і дазваляе яму развівацца. Прасцей кажучы, багацець.

Наконт багацця пытанне нават не ставіцца. Бо, па падліках эканамістаў, нашы гаспадаркі змушаныя прадаваць прадукцыю жывёлагадоўлі па цэнах ніжэй сабекошту. А гэта рэч такая, што чым больш ты прадаеш, тым большыя страты атрымліваеш.



Фота IREX/ProMedia

У такой сітуацыі павялічвае вытворчасць толькі вельмі багаты чалавек ці вар'ят, якому не шкада выкідваць на вецер уласныя грошы. Заўсёды першую ролю ў нас выконвала дзяржава, якую зараз яе кіраўнікі давялі да ручкі. У другую — саўгасна-калгаснае кіраўніцтва, якое выконвала яго ўказанні. А зараз?..

А зараз незалежна ад таго, які на палях ураджай, радуюцца толькі вароны. Ім гарантуецца якаснае і дастатковае харчаванне.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

## Народ мусіць пахудзець

У першым паўгоддзі гэтага года ў Беларусі знізілася вытворчасць шэрагу сацыяльна значных прадуктаў харчавання.

Па дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу, вытворчасць каўбасных вырабаў у параўнанні з першым паўгоддзем 2000 года зменшылася на 2,1 працэнта (у тым ліку вараных каўбас – на 6 працэнтаў, паўвэнджаных – на 27,1, вэнджаніны – на 21,5), цэльнамалочнай прадукцыі (у пераліку на малако) – на 4,2 працэнта, кандытарскіх вырабаў – на 4,3, солі – на 7,5, безалкагольных напояў – на 11,1, крупаў – на 13,2, хлеба і хлебабулачных вырабаў – на 14,6 працэнта, алею – на 17,1 працэнта. Сапраўдны абвал адбыўся ў вытворчасці макаронных вырабаў: іх выраблена ў 2,3 раза меней (42,6 працэнта ад узроўню мінулага года).

Акрамя таго, на 8 працэнтаў знізілася вытворчасць гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў, на 16,9 працэнта – піва, на 40 працэнтаў – каньяку, на 76,2 працэнта (у 4,2 раза) – вінных пладовых напояў, на 82,4 працэнта (у 5,7 раза) – вінных вінаградных напояў.

У лёгкай прамысловасці аб'ём вытворчасці ў першым паўгоддзі скараціўся на 5,6 працэнта. Выпуск тканінаў знізіўся на 10,8 працэнта (у тым ліку шарсцяных – на 38,6 працэнта), трыкатажных вырабаў – на 24 ( у тым ліку для дзяцей – на 29,4), абутку – на 17,8 ( у тым ліку для дзяцей – на 27,7), панчошна-шкарпэтачных вырабаў – на 15,7 (у тым ліку для дзяцей – на 20,9).

Вытворчасць бытавых гадзіннікаў зменшылася на 3,8 працэнта, электрапрасаў – на 5,8, тэлефонных апаратаў – на 6,8, пральных машын – на 11,9, матацыклаў – на 47,8 працэнта.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН**

## Новы дэкрэт засведчыў глупства папярэдняга

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў дэкрэт аб прадоўжанні тэрміну перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання ў Беларусі да 1 ліпеня 2002 года. У адпаведнасці з дакументам, Савету міністраў даручана да 1 лістапада гэтага года ўнесці прапановы па спрошчванні рэгістрацыйных працэдураў і стварэнні ўмоваў для актывізацыі прадпрымальніцкай і інвестыцыйнай актыўнасці.

Новы дэкрэт уступіў у сілу «ранейшай датай» з 1 ліпеня 2001 года, паколькі нарматыўныя акты, якія дзейнічалі раней, прадугледжвалі, што 1 ліпеня перарэгістрацыйная кампанія павінна была завяршыцца.

У Беларускай канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў і Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі лічаць «падобнае рашэнне слушным, хаця і палавінчатым», і выказваюць «стрыманы аптымізм» у адносінах да далейшай лібералізацыі працэсу рэгістрацыі. Пра гэта заявіў БелаПАН намеснік старшыні Савета па прадпрымальніцтве пры Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Сяргей Балыкін. «Спадзяюся, што прэзідэнт краіны прыме спрошчаны парадак рэгістрацыі юрыдычных асобаў, – адзначыў С.Балыкін. – Дзве перарэгістрацыі, якія прайшлі за апошнія 5 гадоў, прывялі да блытаніны ў эканоміцы. Зараз вялікая колькасць суб'ектаў гаспадарання спыніла сваю дзейнасць і знаходзіцца ў стадыі ліквідацыі, а мясцовыя органы ўлады не ў стане справіцца з патокам ліквідацыйных дакументаў. Рэгістрацыйныя працэдуры неапраўдана ўскладненыя і з'яўляюцца занадта дарагімі, асабліва для малых прадпрыемстваў».

**Ірына САЗАНОВІЧ**



Фота IREX/ProMedia

● Хлеб новага ўраджаю

ДАБРАБЫТ

## Паслугі даражэюць

За першае паўгоддзе 2001 года платныя паслугі насельніцтву падаражэлі на 41,1 працэнта, што складае 6 працэнтаў у сярэднім за месяц.

Па звестках міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, найбольш значна павялічыўся кошт паслугаў прававога характару і дашкольных установаў (у 1,6 раза), жыллёва-камунальнай гаспадаркі (на 49,5 працэнта), гасцінічнай гаспадаркі(на 45,1 працэнта), санаторна-курортныя (на 43,6) і турысцка-экскурсійныя (на 41,4) паслугі. Тарыфы на карыстанне пасажырскім транспартам узраслі на 35,4 працэнта (у тым ліку гарадскім – на 51,8, прыгарадным чыгуначным – на 50), плата за адукацыю – у 1,5 раза.

У першым паўгоддзі харчовыя тавары падаражэлі ў сярэднім на 21,7 працэнта. Найбольшы рост цэнаў зафіксаваны на гародніну (на 74,2 працэнта), цвёрдыя сыры (на 38,8), бульбу (на 35,3), малако і малочныя прадукты (на 31,2), алкагольныя напоі (на 24,7). Цэны на прадпрыемствах грамадскага харчавання ўзраслі за паўгоддзе на 46,4 працэнта (на 6,5 працэнта ў сярэднім за месяц).

Нехарчовыя тавары падаражэлі за шэсць месяцаў 2001 года на 13,7 працэнта. Найбольш значна выраслі цэны на дарожныя веласіпеды (на 33,1 працэнта), будаўнічыя матэрыялы (на 25,8), мэблю (на 17,7), баваўняныя тканіны (на 17,6). У той жа час бензін патаннеў на 3,5 працэнта.

У цэлым за паўгоддзе спажывецкія тавары выраслі на 22,4 працэнта.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Эканоміка банкрутаў. Гродзенскі варыянт

Яшчэ нядаўна афіцыйная прапаганда напоўніцу біла ў літаўры: Гродзеншчына па эканамічных паказчыках нарэшце «дасягнула 1990 года!» Вярнуцца ў «савецкі рай» было загадана, як вядома, Лукашэнкам. Ён «гераічна» захаваў і ўмацаваў савецкую камандна-адміністратыўную эканоміку. А для яе заўжды былі самым важным — лічбы, паказчыкі. Гродзенскае кіраўніцтва гэта выдатна разумела і пачало пастаўляць лічбы, гэтак патрэбныя Рыгоравічу для доказаў яго «эканамічнага генія». Апошнія вынікі гродзенскага «эканамічнага цуда» падсумаваў на сесіі аблсавета новы старшыня аблвыканкама У.Саўчанка, які быў прызначаны на гэтую пасаду чатыры месяцы таму.

Размова датычыла паказчыкаў 2000 года і першай паловы сёлетняга. За кіраўніцтва вобласцю былы старшыня аблвыканкама А.Дубко быў зусім нядаўна ўзнагароджаны Лукашэнкам пасмяротна «Героем Беларусі». А ўзнагароды даюць, як вядома, за дасягненні. Аднак У.Саўчанка зазначыў, што цяперашнія праблемы ў эканоміцы ўзніклі не сёлета. У прыватнасці, адна з бязглуздасцяў сённяшняй эканамічнай мадэлі — вырабляць чым болей тавараў, незалежна ад таго, ці маюць яны попыт. Па вобласці ледзьве не 60 працэнтаў агульнага месячнага выпуску прадукцыі ляжыць лежма на складах. Гродзенскія абутнікі чатыры месяцы шылі чаравікі, не прадаўшы з іх ані пары. Нават на тытунёвай фабрыцы не рэалізаваны больш як двухмесячны запас цыгарэтаў. Старшыня аблвыканкама ўшчуваў за празмерныя запасы, як нейкіх двоечнікаў, — нерашуча і бязадрасна: «На абласным, гарадскіх і раённых узроўнях не паследавала мэтанакіраваных дзеянняў... па ліквідацыі або змякчэнні. Гэтаму дрэннаму прыкладу паддаліся і шмат якія кіраўнікі прадпрыемстваў».

Хаця старшыні аблвыканкама, аказваецца, добра вядома, чаму нікому не патрэбная наша прадукцыя, бо гэта вынік — «нізкай якасці і высокага сабекошту». Вось і трапіў ён у замкнёнае кола, паколькі ўсё адно абавязаны выпускаць увесь час больш і больш. Пра гэта на сесіі ён таксама гаварыў вельмі заклапочана, бедаваў, што «тэмпы росту прамысловай вытворчасці» сёлета былі менш, чым патрэбна ўладам. Праўда, У.Саўчанка прызнае, што спробы вырашаць праблемы камандна-адміністратыўнымі метадамі толькі пагаршаюць справы. Аднак у камандна-адміністратыўнай эканоміі іншых метадаў няма. У гэтым — драматычнасць становішча падобных кіраўнікоў, любога з якіх Лукашэнка пры патрэбе можа выкарыстаць у якасці ахвярнага казла. Прыклады — добра вядомы: то цукру не хапае, то яшчэ чаго-небудзь.

У вобласці 590 стратных прадпрыемстваў і арганізацыяў — гэта практычна 40 працэнтаў ад усяе колькасці. Год назад банкрутаў было на чвэрць менш. Або такі прыклад. За пяць месяцаў было атрымана прыбыткаў на 42 мільярды рублёў, а страты — 22 мільярды. Вось дык «эканамічны цуд»! На прадпрыемствах абаротных сродкаў усяго 3 працэнты, а для больш-менш нармальнай працы патрэбна ў 10 разоў болей. І ў такіх умовах улады патрабуюць ад кіраўнікоў, каб тыя павышалі заробкі да 100 долараў. Маўляў, Лукашэнка паабяцаў насельніцтву напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, дык выконвайце чым хутчэй! Хаця любому дзесяцікласніку сёння вядома, што рэальна можна павялічыць заробкі толькі пасля рэформаў у эканоміцы, пасля прыцягнення замежных інвестыцыяў. Толькі Лукашэнка па-ранейшаму дзейнічае камандна-адміністратыўнымі метадамі — пры дапамозе страху і прымусу.

Не дзіва, што ў падобных напружаных умовах моладзь працаваць не жадае. Няма дурных. У.Саўчанка паскардзіўся, што ў выканкамах і ў эканоміцы «захоўваецца тэндэнцыя старэння кадраў». А самае цікавае, што ў «рэальным сектары эканомікі» змяншаецца колькасць кіраўнікоў, якія маюць вышэйшую адукацыю. Нічога дзіўнага. Чалавек з дыпломам аб вышэйшай адукацыі мае да ўсяго яшчэ звычайна гонар і годнасць. А ў беларускай эканоміцы патрэбныя людзі без самалюбства, выканаўцы, пешкі, якія адно павінны ўмець падначальвацца і прыніжацца. Чалавек з якім у любы момант асабіста Рыгоравіч можа беспардонна аблаяць з экрана тэлевізара.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

СУСЕДЗІ

## Вин будет меньше

В среду пресс-служба МВД Украины обнародовала информацию о ликвидации крупнейшего в стране завода по производству фальсифицированных вин, расположенного в селе Счастливом под Киевом. Дело это было возбуждено уже несколько месяцев назад, сообщает сайт Magnolia-TV.Com.

Осенью 1999 года 30-летний директор частного предприятия «Альт-Ром» представил в Госстандарт Украины и Госспецмонополию контракт, согласно которому болгарская винодельческая фирма «ИВС Винороб. ЕД» предоставляет ЧП «Альт-Ром» технологические инструкции на изготовление вин.

Связавшись с Болгарией, сотрудники милиции установили, что контракт ненастоящий: за два года до его подписания болгарские «коллеги» киевлян сменили название и форму собственности. Тем не менее, в 1999 году разрешение на производство вина было получено и в Госстандарте, и Госспецмонополии, и в соответствующем Комитете минагропрома Украины.

Под завод были арендованы помещения, и предприятие занялось производством вин самых популярных на Украине названий: «Монастырская изба», «Вечерний звон», «Исповедь монаха», «Механжийско», «Огненный танец», «Старград», «Кадарка» и «Медвежья кровь» – фальсификат по 3,5-5 гривен продавался практически на всех рынках Киева.

Согласно предварительным анализам, популярный сорт болгарского вина «Монастырская изба» делался на заводе из следующих компонентов: вода, спирт, сок бузины, свеклы и краситель «Карамельный колер».

Всего в течение работы завод выпустил и реализовал продукцию на сумму более 7 миллионов гривен. В течение одного дня оперативники выявили в различных торговых точках, сняли с реализации и изъяли 165 тысяч бутылок вина на сумму около 700 тысяч гривен.

Как сообщил начальник Управления Государственной службы по борьбе с экономической преступностью ГУМВД Украины в г.Киеве, полковник милиции Игорь Лазарев, по собранным материалам прокуратурой города возбуждено уголовное дело и ведется расследование. Степень вины всех причастных к изготовлению и реализации фальсифицированного вина лиц и меру наказания определит суд.

**Отдел информации**

ЭНЕРГЕТЫКА

# Сельская гаспадарка без паліва

Забяспечанасць сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Беларусі палівам значна горшая, чым летась.

Па звестках міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у першым паўгоддзі ў гаспадаркі паступіла на 13% меней дызельнага паліва і на 26% меней бензіну, чым за першыя шэсць месяцаў мінулага года. Найменшы ўзровень паставак дызпаліва ў Брэсцкай і Магілёўскай абласцях (адпаведна 82 і 84% ад узроўню мінулага года), бензіну – у Магілёўскай і Гомельскай абласцях (69 і 71%).

Яшчэ горш ідуць справы з рэшткамі дызельнага паліва і бензіну. У параўнанні з першым паўгоддзем 2000 года яны зменшыліся адпаведна на 22 і 32%. Менш за ўсё рэштаў дызпаліва ў Віцебскай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцях (63 і па 73% ад леташняга ўзроўню), бензіну – у Магілёўскай і Гродзенскай абласцях (50 і 61%).

Па інфармацыі мінстата, тэмпы падрыхтоўкі сельскагаспадарчай тэхнікі да ўборачнай кампаніі таксама адстаюць ад леташніх. На 1 ліпеня няспраўнымі знаходзілася 56% зернеўборачных камбайнаў, 38% жнярак, 50% зернеачышчальна-сушыльных комплексаў, 30% зернеачышчальных машын.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Праект музейнага даўгабуда?

*У Беларусі няма, здаецца, аніводнага музея, які зараз маецца без праблемаў. Галоўная з іх – адсутнасць годных падмузейных памяшканняў. Адзін з самых яскравых прыкладаў – Дзяржаўны музей сучаснага выяўленчага мастацтва: калі справы па ягоным уладкаванні яшчэ цягам некалькіх гадоў не зварухнуцца з «мёртвай кропкі», то можна будзе казаць, што беларуская сталіца займела яшчэ адзін даўгабуд. Пакуль усё выглядае такім чынам, што ёсць файная ідэя, але якая ўрэчаісніваецца занадта марудна.*



Вось так зараз выглядае кінатэатр «Беларусь»


Фота Ул. ШЛАПАКА

Праект Музея сучаснага мастацтва


Вестыбюль будучага музея

Дзяржаўны музей сучаснага выяўленчага мастацтва створаны паводле пастановы Савета міністраў улетку 1997 года. Дырэктарам тут Васіль Шаранговіч, які да гэтага быў рэктарам Беларускай акадэміі мастацтва.

Як ён распавядае, музей ствараўся амаль «на голым месцы». Нязначным запачаткаваннем стала калекцыя з расфармаванага выстаўнага комплексу «На ростанях». Але яна была ў запушчаным стане і не зусім адпавядала канцэптуальным крытэрыям адбору твораў для новага музея. Частку тае калекцыі раздалі па раённых краязнаўчых музеях, але тоё-сёе засталося ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Тады ж паўстала пытанне, як і што збіраць у музей сучаснага мастацтва і наогул што ўважаць за гэтае самае сучаснае мастацтва ў «мнагаквецці стыляў і формаў – ад рэалістычнага да канцэптуальнага мастацтва»? Тут можна спрачацца бясконца, таму было вырашана праводзіць калекцыйную палітыку перш за ўсё па прынцыпе высокапрафесійнасці ў дачыненні да ўсіх накірункаў творчай дзейнасці, якія існуюць у цяперашні час. Як кажа Васіль Шаранговіч, «мы ж не ведаем, што будзе потым, гісторыя ўсё адно перaлапаціць і перагледзіць усё нанова сама».

Зараз у калекцыях музея знаходзіцца каля 1.500 твораў жывапісу, скульптуры, графікі і дэкаратыўна-прыкладного мастацтва. Самыя старыя – прыкладна 20-30-гадовай даўніны. Па першым часе выпадаў такі вельмі папулярны на Захадзе від мастацтва, як фота, але цяпер у музеі багата робіцца фотавыставаў, а некаторыя рэчы з іх апынаюцца ў музейных фондах. Аднак наогул, па словах дырэктара, у апошнія два гады новых экспанатаў з'яўляецца вельмі мала, усяго па 35-40 на год, але з іх закупляецца толькі некалькі, астатняе – падарункі. Усё з-за мізэрных выдаткаў на адмысловыя закупкі з боку міністэрства культуры.

Ад спадчыны «На ростанях» Музею сучаснага мастацтва засталіся дзве выстаўныя залы ў будынку на праспекце Скарыны, 47. Музей месціцца тут часова. Аднак гэтае «часова» доўжыцца ўжо 4 гады, і дзе гэтаму край, не відаць. Ва ўжо згаданай урадавай пастанове гаварылася, што музей мусіць пераехаць і размясціцца ў рэканструяваным паводле праекта архітэктара Леанарда Маскалевіча кінатэатры «Беларусь». Меркавалася, што гэта адбудзецца ў 2003 годзе, але зараз пытанне стаіць не столькі вакол заканчэння будаўніцтва, колькі вакол яго пачатку. Архітэктурная частка праектных работ з каштарысам больш як 120 мільёнаў рублёў выкананая ўсяго на 80%. Прычына палягае, па словах В.Шаранговіча, «у смеху вартым фінансаванні». Праектоўшчыкі ўжо паўгода сядзяць без заробку.

Што ж уяўляе сабой праект рэканструкцыі пабудаванага ў 60-ых гадах мінулага стагоддзя кінатэатра «Беларусь»? Ад яго проста нічога не застанецца. Не, яго не знясуць, ён проста схаваецца ў музеі. Над двухпавярховай «Беларуссю» надбудуюць яшчэ адзін паверх, і наогул кінатэатр раздасца ва ўсе бакі. Плошча гэтага будынка на Юбілейнай плошчы сталіцы павялічыцца з 1.800 квадратных метраў да 12.500. Гэта значыць, у 7 разоў. А ў параўнанні з цяперашнімі плошчамі, якія займае музей на праспекце Скарыны, гэта будзе болей у дзесяткі разоў. Будзе зроблены выхад на парк скульптураў, што раскінецца на прылеглай да музея тэрыторыі. Вольна і ландшафтна-эстэтычна добраўпарадкаванае наваколле, а незацiснутасць іншымі пабудовамі ёсць прыкметай многіх еўрапейскіх музеяў сучаснага мастацтва.

У прынцыпе, гэта мусіць быць не проста музей, а цэлы выстаўны і культурна-асветны цэнтр, які будзе дзейнічаць з ідэі сінтэзу мастацтваў. Паводле дырэктара Музея сучаснага мастацтва Васіля Шаранговіча, гэта значыць, што ў ім павінны прысутнічаць усе віды мастацтваў (у тым ліку архітэктура і дызайн). Мяркуецца рабіць самыя розныя мастацкія акцыі – ад перформансаў і гранняў сімфанічнага аркестра да літаратурных вечарынаў. Рэканструкцыя прадугледжвае стварэнне вестыбюля-атрыума, які дасць візуальную звязанасць кампазіцыяў на ўсіх трох паверхах. Экспазіцыі мусяць быць не пастаяннымі, як гэта ёсць у музеях, дзе паказваецца гісторыя мастацтва, а «пастаянна зменнымі», на 3 гады, як таго вымагае спецыфіка музея менавіта сучаснага мастацтва. Карацей, музей будзе шматпрофільны. Тады чаму ягоная назва акцэнтуецца на «выяўленчым» мастацтве? Васіль Шаранговіч кажа, што гэта пытанне дужа слушнае, што назва музея ўжо зараз занадта вузкая, што ён неаднойчы ставіў пытанне, каб прыбраць гэтае стаўшае лішнім слова з музейнай шыльды.

Адной з асаблівасцяў Музея сучаснага мастацтва на Юбілейнай плошчы стане размяшчэнне там вядомага «Габелена стагоддзя» мастака Аляксандра Кішчанкі. Для гэтага твора (памерамі 14 на 19 метраў і вагой пад 300 кілаграмаў) будзе зроблена адмысловая ніша на першым паверсе новага музейнага будынка. Варта згадаць, што сярод іншых партрэтаў на ім ёсць і выява першага прэзідэнта Беларусі. Супрацоўнікі музея спадзяюцца, што менавіта дзякуючы таму, што яны збіраюцца паставіць у сябе гэты габелен, які ўжо ўвайшоў у Кнігу рэкордаў Гінеса і займеў сёлета статус гістарычнай каштоўнасці, фінансаванне працэсу рэканструкцыі «Беларусі» пойдзе як след.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# «Мокрая» справа аднаго мінскага дома

*Мяркую, Карл Ландэр, савецкі і дзяржаўны дзеяч, асобаўпаўнаважаны надзвычайнай камісіі на Паўночным Каўказе ў 20-м годзе, які скончыў сваё рэвалюцыйна-партыйнае жыццё ў 37-м, быў бы вельмі засмучаны, каб даведаўся, што на вуліцы яго імя стаіць дом, жыльцы якога вось ужо адзінаццаты год спрабуюць дабіцца ад уладаў рашэння пра капітальны рамонт даху.*

А пачыналася ўсё так.

Яшчэ ў пачатку лета 1990 г. грамадзянка Кулакова, якая пражывае ў кватэры № 43 дома № 76, што па вул.Ландэра, падала ў Кастрычніцкі райвыканкам сталіцы заяву з просьбай адрамантаваць дах, які з пачаткам летніх дажджоў пачаў працякаць. 16 жніўня ад намесніка дырэктара ЖРЭА Кастрычніцкага раёна Жукава быў атрыманы дакумент, у якім паведамлялася, што, ***«рассмотрев Ваше заявление в исполком райсовета народных депутатов, сообщаем, что факты, изложенные в заявлении, имеют место. Ремонт кровли над Вашей квартирой будет выполнен в III квартале 1990 года»***. Потым быў яшчэ адзін дакумент на імя заяўніцы Кулаковай, ужо за подпісам дырэктара ЖРЭА М.А.Аляшкевіча, у якім сцвярджалася, што ***«повторный ремонт кровли над Вашей квартирой выполнен в ноябре 1990 г. силами кооператива «Октябрьский»***. Толькі пад новы 1991 год работнікі 24-га ЖЭСа адрамантавалі саму кватэру гр.Кулаковай.

І вось прыйшло лета-91. Да гэтага часу грамадзяне СССР перажылі грашовую рэформу Паўлава, рэферэндум пра адносіны да Саюза Савецкіх Рэспублік... Шмат што змянілася ў жыцці савецкага грамадства, але па-ранейшаму летам ішлі дажджы, па-ранейшаму зацякаў дах дома № 76 над кватэрай № 43.

27.07.1991 г. галоўны інжынер ЖЭСа № 24 Крупа адказвае грамадзянцы Кулаковай, што ***«в связи с большим объемом работ ремонт кровли будет произведен в III кв. 1991 г.»***.

Далейшая перапіска з работнікамі ЖЭС-24 і ЖРЭА Кастрычніцкага раёна паказвае, што папярэднія рамонты даху вынікаў не далі: 43-я кватэра працягвала зацякаць.

Тым часам Мінск, як і ўвесь Савецкі Саюз, перажыў жнівеньскі палітычны крызіс і так званыя Белавежскія пагадненні. Змяніўся і дырэктар Кастрычніцкага ЖРЭА: на месца Аляшкевіча прыйшоў нехта Кабушкін. Менавіта за подпісам апошняга гр-ка Кулакова атрымлівае чарговую пісульку ад 26.12.91 г., у якой яе інфармуюць пра тое, што ***«в связи с неблагоприятными погодными условиями повторный ремонт кровли будет произведен в I полугодии 1992 г., за что приносим свои извинения»***.

У студзені 1992 г. гр-ка Кулакова атрымлівае з Мінскага гарвыканкама ліст за подпісам намесніка старшыні У.Ярмошына.

***«В исполком Минского городского Совета народных депутатов поступило коллективное заявление гр-н дома № 76 по ул.Ландера по вопросу улучшения жилищных условий в связи с постоянной протечкой кровли.***

***Произведенной проверкой установлено, что факты, указанные в заявлении, действительно имеют место. Кровля в доме № 76 по ул.-Ландера мягкая, содержится неудовлетворительно. Рулонное покрытие на всей площади крыши в воздушных подушках, во многих местах наблюдается его расслоение и повреждение, нарушены уклоны, происходит застой воды в образовавшихся «блюдцах» между воздушными подушками. Качество отремонтированной части кровли в доме в 1991 г. очень низкое. Из-за протечки кровли в указанном доме наблюдается затекание квартир всего верхнего этажа, в том числе и квартиры № 43.***

***В целях обеспечения нормальных условий проживания гр-н в доме № 76 по ул.-Ландера и других домах исполком Минского горсовета народных депутатов поручает рассмотреть данный вопрос в исполкоме райсовета народных депутатов и принять необходимые меры по предотвращению протечки кровель и улучшению жилищных условий граждан.***

***О принятых мерах информируйте исполком горсовета и заявителей»***.

Пасля гэтага ліста заяўнікі атрымліваюць наступныя паведамленні-адпіскі.

Ад 11.02.1992 г. за подпісам намесніка старшыні выканкама Шчаслёнка. Ад 27.03.92 г. з упраўлення жыллёвай гаспадаркі Мінгарвыканкама за подпісам нам.начальніка ўпраўлення Трапашкі. Ад 01.07.92 г. за подпісам новага дырэктара Кастрычніцкага ЖРЭА Чугунова. Ад 01.10.92 г. за подпісам ужо згаданага Трапашкі:

***«В связи с тем, что производимые ежегодные ремонты кровли на доме не обеспечивают нужный эффект, ЖРЭО Октябрьского р-на предусматривает на доме № 76 по ул.Ландера производство капремонта кровли в соответствии с рекомендациями института «Белжилпроект» в 1993 г. Выполнение работ взято на контроль»***.

Ад 05.10.92 г. за подпісам намесніка дырэктара Кастрычніцкага ЖРЭА Вераб'я. Аднак у 1992 г. рамонт дома № 76 так і не быў зроблены. У 1993 г. рамонтная «эпапея» прадоўжылася. Адпіска ад 012.06.93 г. за подпісам намесніка дырэктара ЖРЭА Рашчупкіна суцяшала гр-ку Кулакову: ***«На Ваше заявление ЖРЭО Октябрьского р-на сообщает, что ремонт кровли будет выполнен в III квартале 1993 г., после чего будет произведен ремонт мест залития»***.

Да канца 1993 года лакальны рамонт даху дома № 76 быў сапраўды зроблены, але гэта не вырашыла праблему працякання. Не змяніў сітуацыю і прыход да ўлады «народнага любімца» ППРБ. Не дапамаглі ні рэферэндумы па замене нацыянальнай сімволікі, ні наданне расійскай мове статусу дзяржаўнай, ні нават канстытуцыйны пераварот 1996 года: дах на доме № 76 упарта працякае.

У канцы 90-х эстафету перапіскі з уладамі пераняў ад гр-кі Кулаковай жылец кватэры № 60 Вадзім Віленавіч Мазур.

Колькі адпісак атрымаў за гэты час новы заяўнік, мы не ведаем. А вось у перыяд з 1990-га па 1993-ці гады на адрас 43-й кватэры гаротнага 76-га дома прыйшло больш за 20 жэсаўска-выканкамаўскіх паведамленняў – з подпісамі, штампамі, абяцанкамі і прабачэннямі.

І вось настаў раскошны гарачадажджысты ліпень 2001 года. Нічога не дабіўшыся ад уладаў і жэсаўскіх рамонтнікаў, з'ехаў на іншую кватэру Вадзім Віленавіч. За справу хаджэння па інстанцыях ізноў узяліся жанчыны: 5 ліпеня яны падалі заяву-скаргу ў Адміністрацыю прэзідэнта, дзе ім абяцалі даць адказ праз ...месяц. А 30 ліпеня адпаведная заява была пададзеная і на імя дэпутата палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Парфяновіча, якую падпісалі жыльцы «мокрага» дома Сенюкова, Сямашка, Майсак, Ягораў, Мядзведзева, Токараў ды іншыя.

І яшчэ. На некаторых суседніх з «мокрым» домам будынках, якія былі здадзеныя ў эксплуатацыю значна пазней, рамонтнікі ўжо ўзвялі нармальныя двухсхільныя дахі з дрэва і металу. А на пытанне, чым тлумачацца такія прыярытэты, жыльцам з 76-га намякаюць, што проста іх суседзі «подсуетились», г.зн. далі хабар патрэбным чалавечкам.

Тым часам над «мокрым» домам ідуць і ідуць дажджы. Кватэры працякаюць з пятага аж па трэці паверх; разбракаюць і не зачыняюцца дзверы; у столях і сценах з'яўляюцца трэшчыны... Будынак інтэнсіўна разбураецца. І толькі аднаму жыльцу ў «мокрым» 76-м суха і добра – паджарай кабеціне пенсійнага ўзросту, якая не стамляецца зрываць з дзвярэй пад'езда антылукашэнкаўскія налепкі.

***P.S.*** Некалькі парад ад жыльцоў дома № 76: калі ў вас зацякае кватэра – неадкладна падавайце ў ЖЭС заяву з патрабаваннем правесці акт-праверку, на падставе чаго вам павінны будуць зрабіць рамонт «мест затекания»; калі ў вас ёсць малыя дзеці – падавайце заяву ў райпракуратуру (падстава – зацяканне кватэры стварае рэальную пагрозу паражэння электратокам); неабходна таксама звярнуцца ў службу пажарнай бяспекі і да дэпутата вашай выбарчай акругі.

**Славамір АДАМОВІЧ**

## Новае пераафармленне

Да 31 снежня 2001 года юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі мусяць правесці пераафармленне спецыяльнага легкавога аўтатранспарту ў міністэрстве ўнутраных справаў. Як зазначана ў пастанове Савета міністраў Беларусі «Аб упарадкаванні выкарыстання службовых і спецыяльных легкавых аўтамабіляў», да спецыяльных легкавых аўтамабіляў



адносяцца транспартныя сродкі, укамплектаваныя спецыяльным тэхналагічным абсталяваннем, якія маюць спецыяльныя светлавыя і (або) гукавыя сігналы, надпісы і (або) колерагафічную афарбоўку.

Згодна з урадавым дакументам, юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі будуць вызначаць колькасць спецыяльных легкавых аўтамабіляў з лімітам прабегу не больш за дзве тысячы кіламетраў у месяц, затраты па якіх кладуцца на сабекошт тавараў. Затраты звыш устаноўленага ліміту прабегу будуць ажыццяўляцца за кошт прыбытку, што застаецца ў распараджэнні вышэйзгаданых асобаў. Апрача таго, юрыдычныя асобы змогуць набываць легкавы аўтатранспарт у мэтах выкарыстання яго як службовага і спецыяльнага пры адсутнасці ў іх запазычанасці па заработнай плаце, за энергарэсурсы, па плацяжах у бюджэт, дзяржаўныя мэтавыя бюджэтныя і пазабюджэтныя фонды і па крэдытах, атрыманых пад гарантыю ўрада.

Міністэрствы, рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання, аб'яднанні (установы), падначаленыя ўраду, аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму, павінны прадставіць у МУС і мінфін прапановы аб найменнях спецыяльных легкавых аўтамабіляў, зыходзячы са спецыфікі вытворчага працэсу, выканання работ і аказання паслуг адпаведнымі арганізацыямі. Апрача таго, названыя вышэй дзяржструктуры павінны ўстанавіць кантроль за мэтавым выкарыстаннем транспартных сродкаў, якія знаходзяцца ў іх веданні, установамі і арганізацыямі.

Як зазначана ў пастанове, падобныя дзеянні дазволяць упарадкаваць выкарыстанне службовых і спецыяльных легкавых аўтамабіляў і скараціць выдаткі на іх утрыманне.

**Вольга АСІПЕНКА**

## Выстава шведскіх мастакоў і фатографаў

У Мінску ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася выстава работ шведскіх мастакоў і фатографаў з горада Стрэнгнеса.

Шведскія майстры ўпершыню выстаўляюць свае працы ў Мінску. Яны прыбылі ў беларускую сталіцу па запрашэнні Міжнароднай гільдыі жывапісцаў. Таксама гэтая выстава з'яўляецца часткай праекта Галіны Еўдакімчыкавай і Ларса-Ёрана Малмгвіста, якія актыўна падтрыманы Шведскім Інстытутам. У межах праекта ў Швецыі прайшлі ўжо тры выставы беларускіх мастакоў.

На выставе, якая пройдзе да 10 жніўня, прадстаўлены творчыя працы шведскіх майстроў: мастацкая фатаграфія, жывапіс, металапластыка, роспіс па тканіне, скульптуры і кампазіцыі з каменя і дрэва. Шведскія мастакі Дайна Б'ёрклунд, Ціо Янсан, Брыта Ліндэфельдт, Стурэ Сёберг, мастакі-фатографы Марк Куму, Изабел Лейстркм, Андрэас Сёдэрквіст, Ларс-Ёран Малмгвіст прадставілі свае працы ў многіх краінах свету.

Ціо Янсан паспяхова працуе ў скульптуры і каляровай графіцы, шырока выкарыстоўваючы магчымасці матэрыялу і колеру. Апошнім часам разам з Стурэ Сёбергам Ціо захапіўся вогненнай скульптурай, калі створаныя з саломы аб'екты потым спальваюцца.

Здзіўляе сваёй незвычайнасцю, сучасным пачуццём формы творчасць 85-гадовай мастачкі Брыты Ліндэфельдт, якая добра валодае рознымі матэрыяламі: каменем, дрэвам, металам, керамікай. На жаль, Брыта не здолела прыехаць у Мінск са сваімі калегамі.

Дайна Б'ёрклунд (мастак і пісьменнік) прадставіла на выставе шэраг сваіх невялікіх па памеру прац у стылі геаметрычнага абстракцыянізму.

Ларс-Ёран Малмгвіст працуе ў чорна-белай фатаграфіі. Улюбёнай тэмай яго творчасці стаў партрэт сучасніка, а апошнім часам ён захапіўся металапластыкай, прычым яго педагогам стала Брыта Ліндэфельдт, чые працы таксама прадстаўлены на выставе.

**Маша ПЯТРОВА**

# Коллективная безнадежная печаль

## *И при старых большевиках, и при нынешних коллективное письмо выражает акт отчаяния группы населения*

*НАША СВАБОДА оказалась той последней инстанцией, в которую поступило коллективное письмо тружеников колхоза им. Кирова Слуцкого района. Среди его первых адресатов были райисполком, облисполком, администрация президента, Александр Лукашенко лично. Отписки колхозникам везде составлялись примерно одинаково: «Ваше письмо, поступившее..., направлено...» по инстанции вниз.*

Каждое следующее послание, особенно в адрес А.Лукашенко, сопровождалось светлыми надеждами, что письмо все же попадет в руки «всенародноизбранного», прорвется сквозь барьер, который воздвигают чиновники, и ОН даст приказ решить мучительную хозяйственную проблему отдельно взятого колхоза. Эта трогательная наивность буквально наполняет письма главному из белорусских чиновников:

«Уважаемый Александр Григорьевич, письма до Вас не доходят. В этом мы убедились, когда писали в Ваш адрес и в газету «Советская Белоруссия». Получается, что получает их один и тот же главный специалист «Эйсмонт».

***Высылаем к тому подтверждение, копии уведомлений. Возможно, письма перехватывает Главпочтамт Минска, даже до канцелярии президента не доходят».***

Ну, подумать бы простодушным людям, зачем Главпочтамту перехватывать письма из Слуцкого района, если в администрации президента есть специальная служба по сортировке и ответам. И кто из глав государств вообще читает письма трудящихся, тем более, если в них содержится банальная экономическая просьба. Таких писем почтальон ежедневно приносит в администрацию полную сумку. Это для людей, проживающих в деревне Козловичи, выполнение просьбы очень важно, а в масштабе республиканского хозяйства, с хронически больной экономикой, она неисполнима, и потому коллективное письмо не вызывает ничего, кроме вздоха от лишней работы у чиновников, которые вынуждены пересылать ее нижестоящим коллегам для неисполнения.

А люди ждут и надеются. Потому что думают, что их поймут, вспомнят их заслуги и вознаградят исполнением мелкой, в сущности, просьбы.

Поэтому по правилам эпистолярного жанра советского периода в письме отмечались успехи коллективного хозяйства, достигнутые в давние уже и безвозвратные времена:

***«А теперь вкратце о нашем колхозе.***

Колхоз им.Кирова до 1991 года – один из лидирующих по всем показателям в Республике. За высокие производственные показатели и культурное строительство колхоз в 1966 году награжден памятным знаменем ЦК КПСС и ВЦСП, а председателю колхоза в 1967 году Лемещенко С.Д. присвоено звание Героя Соц. труда, который проработал вместе с нами более 30 лет. По возрасту ушел в отставку.

После колхоза принял Дытченков Валерий Семенович. Вот отсюда и пошел наш колхоз вниз. На счетах колхоза Лемещенко оставил более 7 млн. рублей рублями, более 3 тысяч поголовья КРС, две фермы свиней, крупную племенную ферму лошадей, богатейший потенциал техники, с которым не сравнить



Фота IREX/ProMedia

было тогда ни одно хозяйство в районе, соковый завод с линией производства сидра и разной другой продукции. В каждой деревне были хорошие обустроенные бани.

Все это принял Дытченков и за 7 лет его работы было расхищено без малого.

Слуцкий район по традиции должен занимать по показателям где-то второе место после Несвижа. На это имеются все экономические и природные условия в районе. Здесь богатый и трудолюбивый народ.

***И ему нужен давно ответственный, грамотный, эффективный руководитель, бескорыстливый в личных целях».***

Расхищено или само пропало под действием неблагоприятной для сельского хозяйства политики правительства – вопрос, который может решать только специальная проверка. О ней авторы письма также просили всех адресатов. И не допросились – не та причина, чтобы пересчитывать поголовье КРС. Это когда В.Старовойтова сажали в тюрьму, тогда пересчитывали.

Но не только для такого сообщения ставили свои подписи на коллективный лист колхозники некогда преуспевающего, а ныне полудобитого хозяйства.

«Суть дела такова:

***Центральная дорога нашей деревни протяженностью в два километра по улице Кирова от мастерской до выхода на кольцевую по своим физическим свойствам разрушена и подлежит новому обустройству. Эта дорога – кровеносная артерия колхоза, по которой добивается последняя устаревшая техника, а наши дома в результате систематического движения покрываются в облаках пыли и грязи».***

Ну кто же будет реагировать на такие письма. Везде такие дороги, везде облака пыли. Где же денег наберешься на сельский комфорт. Поэтому вполне объяснимо, почему «Майко Василий Васильевич – зампред. облисполкома нам положительного ответа не дал. Он сказал: ***«Соберите деньги с каждого двора колхозника и совместно с колхозом сделайте дорогу, денег у государства на это нет?»***

Откуда же будут у крестьян, если нет у государства, и улица все же принадлежит стране. Вот они и просят А.Лукашенко:

«Мы крестьяне просим Вас разыщите деньги и помогите построить нам дорогу в деревне Козловичи, расстоянием где-то в 2 километра.

Наш колхоз в настоящее время не может постоянно платить зарплату колхозникам, рассчитаться во время за сданных телят колхозников.

Вышлите комиссию и сделайте ревизию по нашему колхозу им.Кирова, тогда все факты и причины нищеты нашего лидирующего в прошлом колхоза будут на лицо вскрыты.

Отыщите и выделите деньги для обустройства в нашей деревне: дороги, воды в центральном водопроводе и ФАПа для возможности лечения колхозников».

Мечты, мечты, где ваша сладость! Если всем колхозникам построить дороги, дать воду в водопровод, обустроить фельдшерские пункты для лечения, то что останется президенту от того миллиарда долларов, который он держит в загашнике на черный день от проданного оружия?

Чем меньше дашь – тем больше останется.

**Агнета КВЯТКЕВИЧ**

# Марадона набліжаецца да варотаў Жэкю

Пакуль лепшыя спартсмены краіны пад кіраўніцтвам Эдуарда Малафеева толькі мараць аб чэмпіянаце свету па футболе, беларускія артысты, а, дакладней сказаць, спевакі, на апошнім тыдні жніўня прымуць у ім удзел. Шаснаццаць нацыянальных зборных камандаў майстроў эстрады правядуць у Маскве сваё першае сусветнае першынство. У ліку заяўленых будзе і зборная Беларусі. На папярэднім этапе яна сустрэнецца з калектывамі з Аргенціны, Чэхіі ды Швецыі. У фінальную частку спаборніцтваў трапяць толькі пераможцы з чатырох групаў, якія і разыграюць узнагароды. Астатнія каманды, па рэгламенце, будуць аспрэчваць месцы з пятага да апошняга. Адзінаццаць зборных прадстаўляюць Еўропу, з былых краінаў СССР, акрамя беларусаў, на поле выйдуць яшчэ артысты і ...сапраўдныя футбалісты, аб гэтым крыху далей, з Украіны і, канешне, Расіі. Прадстаўніцтва з іншых кантынентаў не будзе такім вялікім, але і наяўнасць тых жа аргенцінцаў, амерыканцаў, японцаў на турніры стане не залішнім. На жаль, не ўбачым мы ў Маскве каманду Бразіліі на чале з легендарным Пеле. Затое гарантуюць у сваім складзе Марадону аргенцінцы. Ён будзе, безумоўна, галоўнай зоркай у спаборніцтвах.

Вось і падышоў час для неабходнага тлумачэння. Згодна з правіламі, кожная дэлегацыя мае права ўключыць у спіс гульцоў адразу двух прафесіянальных футбалістаў, не маладзей за сорак гадоў. Капітан беларусаў, спявак і кампазітар Альберт Скараход, якому належыць ідэя стварэння гэтай незвычайнай каманды ў Беларусі, карыстаючыся гэтай ільготай, уключыў у каманду двух былых дынамаўцаў Мінска – галкіпера Івана Жэкю і паўабаронцу Сяргея Алейнікава. Украінцы ўнеслі ў заяўку Ігара Бяланава, лепшага футбаліста Еўропы 1975 года, палякі – славутага Яцэка Бонека... Адным словам, можна будзе ўбачыць цэлы россып зорак майстроў скуранога мяча. Ды і не толькі іх. Па нашых звестках, у заяўленую «салодкую парачку» сваіх зборных вельмі жадаюць напрасіцца і прафесіяналы з іншых відаў спорту. Нельга страціць такую магчымасць для рэкламы! Напрыклад, той жа шведскі хакеіст Сальмінг, які зусім нядрэнна валодае не толькі клюшкай, але і мячом. За германцаў, як жа без іх абысціся на чэмпіянаце, плануе выступіць славуты тэнісіст Барыс Бэкер, такая ж думка і даспадобы Міхаэля Шумахера. Ягоны адрыў у «Формуле-1» зараз такі вялізарны, што ён нават можа і прапусціць адну гонку... Што датычыцца артыстаў, дык гэтых «зорак» хопіць на ўвесь Млечны шлях. Чаго толькі каштуе той факт, што зборную ЗША на полі будзе выводзіць сам Сцінг...

Наша каманда ў гэтым сэнсе выглядае больш сціплай, але, па беларускіх мерках, наяўнасць Валерыя Дайнекі, Дзмітрыя Смольскага, Валерыя Разанава, Анатоля Длускага, групы «Новы Іерусалім» таксама не абы-што. Хаця, вельмі спатрэбіліся б і «легіянеры». Але гэта вам не сапраўдны футбол, а «артыстычны», таму, што маем, то ўсё наша.

Акрамя выступлення на зялёным газоне, кожны з прэтэндэнтаў на чэмпіёнскі тытул павінен сваімі сіламі даць адзіны галаканцэрт на галоўнай спартыўнай арэне рускай сталіцы – Лужніках.

Зборная беларускіх артыстаў існуе шосты год, мае ў сваім актыве адну міжнародную таварыскую сустрэчу з расійскімі калегамі са «Старка», якую ўзначальвае Прэснякоў-старэйшы. (Матч прайшоў тры гады таму на стадыёне «Дынама». А потым, агульнымі намаганнямі, быў дадзены канцэрт). Кожны сезон «скараходаўцы» праводзяць традыцыйную гульню з адміністрацыяй Першамайскага раёна Мінска і толькі аднойчы згулялі з імі ўнічыю. Каб падцягнуць сваё футбольнае майстэрства, нашы хлопцы апошні месяц трэніруюцца і гуляюць разам з беларускімі міліцыянтамі! Што ні гавары, ехаць трэба на сапраўдны чэмпіянат свету. Аб якім іншыя могуць толькі марыць.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдадзена з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1742 Нумар падпісаны ў друк 2/08/2001 (15:00) Наклад – 10.070